ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 41 (2339) 14 кастрычніка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.



Праваслаўная царква прападобнай Марыі Егіпецкай у Вілейцы.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## УСІМ НАМ НЕ ХАПАЕ ЛЮБОВІ ДА БЛІЖНЯГА

**Адказы Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі на пытанні газеты "Голас Радзімы"**

**— Як адчувае сябе царква ў цяперашніх палітычных і сацыяльных умовах? Канешне ж, многае стала прасцей, але, напэўна, узніклі нейкія новыя складанасці?**

— Наша грамадства знаходзіцца ў цяжкім эканамічным становішчы. І Праваслаўная Царква, натуральна, падзяляе ўвесь цяжар народа. У нас, на жаль, не хапае матэрыяльных магчымасцей разгарнуць у поўнай меры, як нам бы таго хацелася, царкоўную дабрачыннасць, дапамогу састарэлым і хворым, хоць многае ў гэтым напрамку мы ўжо робім. Горка, што ў выніку абставін мінулых гадоў веруючаму народу, колькасць якога ўсё павялічваецца, на хапае вопытных пастыраў. Не хапае духавенства як "белага", так і "чорнага", каб кожны праваслаўны чалавек набыў духоўнага айца, каб паломнік, прыйшоўшы ў манастыр (а ў Беларусі толькі два манастыры), мог не толькі прыпасці да святыні, але і грунтоўна паспавядацца, атрымаць індывідуальную духоўную дапамогу ад пастыра. Урон, нанесены стану духавенства, настолькі адчувальны, што мы, напрыклад, яшчэ няхутка зможам адрадзіць традыцыі старчаства як інстытута духоўнага акармлення. З-за недахопу духавенства і рэлігійна адукаваных прыхаджан практычна надзвычай ускладнены працэсы духоўнай асветы народа, місіянерскай дзейнасці. Таму даюць аб сабе знаць вельмі небяспечныя ў духоўных адносінах з'явы: абскурантызм, рэлігійная недасведчанасць, забабоны, рудыменты паганства, арыентаванасць многіх людзей хутчэй на абрадавасць, чым на сапраўдныя ісціны Праваслаўя...

**— Чаго, на Вашу думку, сёння больш за ўсё не хапае нашаму грамадству?**

— Я — свяшчэннаслужыцель, а не палітык, таму не варта чакаць ад мяне палітычных ацэнак стану грамадства. А як свяшчэннаслужыцель, я лічу, што нашаму грамадству, усім нам (таму што Царква не можа разглядаць сябе па-за грамадствам) не хапае любові да бліжняга, любові да чалавека як да тварэння Божага. А любоў — гэта цярпімасць, дараванне, дапамога слабаму.

**— Як сябе адчувае Праваслаўная Царква ў рэспубліцы, дзе адначасова існуюць яшчэ і іншыя канфесіі, а ў апошні час на ролю нацыянальнай рэлігіі прэтэндуе уніяцтва? Часам гучаць заявы палітычных дзеячаў, што "беларуская дзяржава падтрымае Унію і знойдзе шмат спосабаў, каб па-сапраўднаму абараніць духоўныя і нацыянальныя інтарэсы беларускага грамадства".**

— Паводле сацыялагічных даследаванняў, больш за 70 працэнтаў насельніцтва Беларусі лічаць сябе праваслаўнымі. Зразумела, да ўсіх веравызнанняў мы ставімся з павагай і цярпімасцю, да чаго заклікаем і нашу паству. Спадзяёмся, што і ўпамянутыя вамі палітычныя дзеячы праявяць мудрасць і здаровы сэнс, калі будуць імкнуцца да кансалідацыі ўсіх сіл грамадства для выхаду Беларусі з крызісу, калі не стануць — свядома ці несвядома — арыентаваць народ на канфрантацыю, у прыватнасці, розных канфесій.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ДАЖДЖЛІВЫ ДЗЕНЬ НА ДАЧЫ Ў МАСТАЧКІ Нінэль ШЧАСНАЙ

## ЗАДУМ ХОПІЦЬ НА 500 ГАДОЎ ЖЫЦЦЯ

Я ехала на дачу да мастачкі Нінэль Шчаснай у халодны восеньскі дзень. Ішоў сумны і, здавалася, бясконцы дождж. Людзі на мінскім вакзале хаваліся пад парасоны, і ім, мусіць, хацелася схавацца не толькі ад дажджу, але і ад самога жыцця. Яны загаманілі толькі ў аўтобусе, калі ім паведамілі пра чарговае павышэнне цэнаў на білеты. І не абы-якое, а ў два разы. Людзі лаялі ўрад, успаміналі былыя "светлыя часы". Але словы і мары не сагравалі іх. Рабілася так тужліва, і хацелася бегчы ад дажджу, ад скаргаў людскіх. Хоць куды. Брудны аўтобус ехаў марудна, аднак наблізіўся да вёскі Траскоўшчына, дзе я павінна была сысці. Я прайшла па нейкаму падабенству прасёлкавай дарогі, убачыла невялічкую вёсачку, дзе знаходзіцца дача Нінэль Іванаўны. Пакуль ішла да яе, мяне прывітаў не адзін вясковы сабака зусім не сяброўскім брэхам. Я іх раздражняла, як ужо раздражняла і саму сябе. Мне было сорамна, што я іду такая сумная ды яшчэ з дажджом у дом мастачкі, карціны якой люблю.

А Нінэль Іванаўна прыняла мяне як самага доўгачаканага госця. Варта было прыехаць да яе нават у такую непагадзь, каб не толькі паслухаць таленавітага мастака, але і падзівіцца яе энергіі. Прытым не сытай і самазадаволенай энергіі, ад якой часам робіцца няёмка, а энергіі чалавека, які ведае і ўмее рабіць сваю справу. Амаль тры гады Нінэль Шчасная жыве пастаянна на сваёй дачы, акрамя толькі часу моцных маразоў. Там яна творыць і даглядае агарод. Цікава, што амаль увесь дом яна зрабіла сама. Будаваць было нялёгка, але Нінэль Іванаўна рада, што ёсць у яе цудоўны куток на ўзгорку, недалёка ад ракі Іслач. Прырода нібы спецыяльна для яе стварае прыгожыя краявіды і дорыць іх ёй. Ды і сам дом зусім непадобны на цяжкія безгустоўныя збудаванні, што часта сустракаюцца ў дачных пасёлках. Звонку ён здаецца невялікім і лёгкім, дзякуючы, мабыць, вежы над ім. У доме цікава, утульна і прасторна, а ў вежы будзе з часам майстэрня. Сваёй формай і колерам яна цудоўна гарманіруе з наваколлем, з пікамі елак.

(Заканчэнне на 7-й стар.).




**У вечаровых прыцемках адбылася 7 кастрычніка ля Дома афіцэраў у Мінску сустрэча народных дэпутатаў ад апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце рэспублікі з выбаршчыкамі і жыхарамі сталіцы. Цемра, што агортвала і прамоўцаў, і слухачоў (з-за энергетычнага крызісу горад дрэнна асвятляецца), міжволі наводзіла на думку аб эканамічных і палітычных прыцемках у Беларусі — гэтым, як яе называе апазіцыя, апошнім "запаведніку камунізму".**

**Галоўная думка дэпутатаў, што прамаўлялі да людзей, — крывавыя падзеі ў Расіі рыхтаваліся тут, у Мінску, дзе Славянскі сабор, Саюз афіцэраў ды іншыя пракамуністычныя і прафашысцкія арганізацыі закладвалі падмурак аднаўлення СССР. І кожны ўяўляе, што з намі было б, калі б яны перамаглі...**

**Абвінаваціўшы ўрад В.Кебіча ў недалужнасці і банкруцтве, апазіцыя заклікала людзей не быць абыякавымі, скінуць з сябе здранцвенне. Найпершая задача — гэта патрабаванне адстаўкі ўрада і правядзенне датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: прамаўляе лідэр апазіцыі БНФ Зянон ПАЗЬНЯК.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— У чым сёння Вы бачыце галоўную функцыю царквы?**

— Наша задача — даць народу сапраўдныя маральныя арыенціры, перасцерагчы чалавека ад граху і тым самым дапамагчы грамадству. Як і ў прайшоўшыя тысячу гадоў, на беларускіх землях Праваслаўе заклікана і сёння выконваць свой абавязак: служыць Богу, акармляць веруючых, несці ў свет Евангельскую праўду, тварыць дабро і міласэрнасць — гэта значыць рабіць тое, для чаго Ісус Хрыстос стварыў Царкву, сказаўшы Сваім вучням: "Ідзіце па ўсім свеце і прапаведуйце Евангелле ўсяму жывому" (Мк. 16, 15).



# УСІМ НАМ НЕ ХАПАЕ ЛЮБОВІ ДА БЛІЖНЯГА

**— Апошнім часам святароў можна бачыць амаль паўсюль, іншым разам у зусім нечаканых месцах, і асвячаюць яны і караблі на рэйдах, і трактары на канвеерах. У сваю чаргу, ніводнае праваслаўнае свята не абыходзіцца без дзяржаўных дзеячаў, якія раптам зрабіліся самымі апантанымі вернікамі. Як Вы ставіцеся да гэтай моды на рэлігію?**

— Людзям увогуле ўласціва арыентавацца на паводзіны многіх; гэта — аб'ектыўна. І калі цяпер многія пацягнуліся да Царквы ў пошуках Праўды, Дабра, Справядлівасці, Божай дапамогі, у пошуках стабільных, вечных ісцін, — за імі, шукаючымі, ідуць і астатнія. Тое, што вы называеце модай, — непазбежныя выдаткі пошукаў грамадскага і асабістага духоўнага ідэалу. Мода, калі мець на ўвазе павярхоўнае імкненне быць, "як усе", праходзіць. А хто возьме на сябе смеласць з дакладнасцю паспрабаваць адрозніць пагоню за модай ад шчырай веры? І таму я б сказаў, што Царква і яе служыцелі ні ад кога не павінны адварочвацца: не толькі ад тых, хто прыйшоў да Бога шчыра і на ўсё жыццё, але і ад тых, хто звяртаецца да Царквы, прывабленыя імгненным захапленнем — хто ведае, можа, прыход у храм, што здаецца выпадковым, акажа рашаючы ўплыў на душу чалавека.

Што ж тычыцца дзяржаўных дзеячаў, то, па-першае, нішто чалавечае, у тым ліку, вера, ім не чужое. Па-другое, дзяржаўнымі дзеячамі ў пэўных выпадках можа рухаць калі не вера, то неабходнасць прадстаўніцтва — і, на мой погляд, няма нічога благога ў тым, што сваёй прысутнасцю на царкоўных святах кіраўнікі дзяржавы праяўляюць павагу да веры свайго народа. Ці ўласная вера, ці павага да веры іншых — і тое, і іншае, мне здаецца, робіць гонар чалавеку, кім бы ён ні быў.

**— У апошні час пачасціліся напады на праваслаўных святароў і нават іх забойствы. Сведчаннем ці сімптомам чаго, на Ваш погляд, ёсць такая з'ява?**

— Свяшчэннаслужыцелі Праваслаўнай Царквы ва ўсе часы цярпелі ганьбаванні і ганенні, многія скончылі жыццё ў пакутах — ад ранняга хрысціянства да XX стагоддзя. Не будзем забываць, што новамучанікі нашага стагоддзя — гэта нашы з вамі сучаснікі. Ісус Хрыстос у Нагорнай пропаведзі прадказваў, звяртаючыся да вучняў Сваіх: "... будуць панасіць вас і гнаць і ўсяляк няправедна зласловіць за Мяне..." (Мф. 5, II). Напады на праваслаўных свяшчэннаслужыцеляў — сведчанне як шчырасці слоў Спасіцеля, так і сімптом вялікай сілы хрысціянства, пераканаўчасці пропаведзі праваслаўных пастыраў, калі ў іх ёсць ворагі, гатовыя пазбавіць іх нават жыцця...

**— Нашаму часу пастаянна спрабуюць даць сваю ацэнку палітыкі, дзяржаўныя дзеячы, дзеячы культуры. А як бы вызначыла яго Царква?**

— Для нас відавочна: цяпер у грамадстве ідзе пошук новых маральных ідэалаў. Пры гэтым слова "новых" я б узяў у двукоссе, таму што за дзве тысячы год чалавецтва не знайшло ідэалаў, больш агульназначных, чым вучэнне Хрыста. Многія і сёння знаходзяць апірышча ў хрысціянстве. Думаю, што наш час — час другога Хрышчэння нашай Айчыны, час вяртання ў лона Праваслаўнай Царквы.

**— Раскажыце, калі ласка, аб узаемаадносінах Беларускай Праваслаўнай Царквы з адзінаверцамі за мяжой. У прыватнасці, Вашы адносіны да Беларускай аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Летам мінулага года на святкаванне 1000-годдзя Полацкай епархіі сюды прыязджаў мітрапаліт Мікалай; у гэтым годзе ў сакавіку Вы прымалі прэзідэнта БНР Язэпа Сажыча. І мітрапаліт БАПЦ, і прэзідэнт БНР закраналі пытанні аўтакефаліі, і не толькі ў замежжы. У прыватнасці, прадстаўнікамі беларускай эміграцыі ставіцца пытанне аўтакефаліі ў нашай рэспубліцы. Ці не маглі б Вы, Уладыка, прыгадаць важнейшыя моманты сваіх гутарак з імі на гэтую тэму, і Ваша асабістае стаўленне да гэтага пытання?**

— Перш за ўсё хацеў бы з усёй рашучасцю адзначыць, што цяперашняе становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы не супярэчыць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Вельмі шкадую, што з-за страты за гады ваяўнічага атэізму разумення ролі і месца рэлігіі і Царквы ў грамадстве, у асяроддзі некаторых палітычных дзеячаў і часткі інтэлігенцыі бытуе абывацельскае ўяўленне пра Царкву як пра нейкі чарговы інстытут, арыентаваны на палітыку. Хацелася б разбурыць гэты стэрэатып, гэта няправільнае ўяўленне. Справа Царквы — духоўнае акармленне паствы, клопат аб выратаванні душ, служэнне Богу, гэтым, галоўным чынам, заклапочана Праваслаўная Царква. Мы не адмаўляем разам з тым, што былі перыяды ў гісторыі, калі палітычныя структуры спрабавалі гвалтоўна выкарыстаць Царкву ў сваіх інтарэсах... Вельмі спадзяюся, што рэцыдываў такіх спроб не будзе.

Думаецца, што распаўсюджаная ў пэўным асяроддзі ідэя аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы народжана няведаннем як сутнасці Царквы Хрыстовай, так і самога разумення аўтакефаліі. Справа ў тым, што ўнутры Царквы да гэтага часу не выпрацавана кананічнае вызначэнне гэтага паняцця. Пытанне аб аўтакефаліі як асобай з'яве ўключана ў парадак дня маючага адбыцца Вялікага і Святога Усеправаслаўнага Сабора. Хачу быць зразуметым правільна: уласна ідэя аўтакефаліі намі не адхіляецца, але ў сілу таго, што сутнасць аўтакефаліі не вызначана правіламі Усяленскіх Бабораў, гэтае пытанне працягвае вывучацца ўнутры Праваслаўнай Царквы.

Гэты тэарэтычны аспект надзвычай важны, бо за падобныя крокі мы нясём адказнасць перад Богам, перад гісторыяй, перад народам; на безадказныя рашэнні мы не маем права. Таму, думаецца, ставіць пытанне аб аўтакефаліі можна тады, калі будзе ясна, у чым яе сутнасць. Тым не менш практыка паказвае, што, незалежна ад тэарэтычнага вырашэння праблемы, Царква па меры свайго духоўнага ўзрастання, улічваючы нацыянальныя і рэлігійныя асаблівасці, вырашае гэтае пытанне шляхам прадастаўлення мясцовым Цэрквам той ці іншай ступені самастойнасці. Так, што тычыцца Беларускай Праваслаўнай Царквы, то неабходна падкрэсліць наступнае. Яшчэ ў 1989 годзе, задоўга да рашэння пытання аб суверэнітэце Беларусі, Свяшчэнны Сінод Маскоўскага Патрыярхата, улічваючы рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, яго яркую духоўную і культурную самабытнасць, утварыў Беларускі Экзархат, прадаставіўшы тым самым праваслаўнаму народу Беларусі самастойнасць у будаўніцтве свайго царкоўнага жыцця. Утвораны Сінод Беларускай Праваслаўнай Царквы, які складаецца ўжо з 10 правячых епіскапаў.

**— Як сёння, у час шматлікіх спакус, расчараванняў і цяжкіх выпрабаванняў, зберагчы сваю душу?**

— Гэтым пытаннем мыслячыя людзі задаваліся заўсёды. Нейкі юнак, як сведчыць апостал і евангеліст Матфей, пытаўся пра гэта Ісуса Хрыста. І Ісус адказаў яму: "Захоўвай запаведзі... не забівай; не пралюбадзейнічай; не крадзі; не сведчы лжыва; шануй бацьку і маці; і любі бліжняга твайго, як самога сябе" (Мф. 19, 17–19). Іншага шляху выратаваць сваю душу і ад сённяшніх спакус, і жыццёвых выпрабаванняў проста не існуе.

**Гутарку запісала Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ВЕЧАР У ШТАБ-КВАТЭРЫ ААН, ПРЫСВЕЧАНЫ М. ГАРЭЦКАМУ

**У штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны стагоддзю М. Гарэцкага.**

**Кіраўнікоў дэлегацый дзяржаў — членаў ААН, прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса і грамадскасці краіны знаходжання, суайчыннікаў, якія прыбылі на гэтае свята беларускай культуры, цёпла вітаў кіраўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка.**

**Ён выступіў з прамовай, у якой расказаў пра творчы лёс аднаго з лепшых сыноў Беларусі, чыімі галоўнымі рысамі былі глыбокая духоўнасць, нацыянальная самабытнасць і самасвядомасць, імкненне ўбачыць Беларусь незалежнай дзяржавай.**

**Вечар завяршыўся канцэртам ансамбля "Сябры".**

**Ніжэй друкуем прамову Пятра КРАЎЧАНКі.**

# ЁН БЫЎ САМЫМ АДУКАВАНЫМ

Шаноўная грамада!
Дарагія суайчыннікі!
Спадарыні і спадары!

Чацвёрты раз запар тут, у гэтай зале, праводзіцца нацыянальная вечарына, прысвечаная лепшым сынам нашай Бацькаўшчыны. У 1990 годзе мы заклалі падмурак гэтай традыцыі і не здрадзілі ёй. Спадзяюся, што не адмовімся ад яе і ў наступным годзе.

Сёння нас сабраў тут і яднае выдатны сын зямлі беларускай — Максім Гарэцкі, 100-годдзе з дня нараджэння якога шырока адзначалася на Беларусі. У пачатку лістапада запланавана і будзе праведзена вечарына з вялікай мастацкай і фотавыставай у гонар Максіма Гарэцкага ў Парыжы, у штаб-кватэры ЮНЕСКА. Спадзяюся, што яна адбудзецца з маім удзелам і абавязкова з удзелам Радзіма Гарэцкага, старшыні згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", віцэ-прэзідэнта АН Рэспублікі Беларусь.

Сённяшні дзень дазваляе нам аб'ектыўна ацаніць жыццё і творчасць Максіма Беларуса, як называў сам сябе даволі часта М. Гарэцкі. І мне здаецца, што гэтымі словамі сказана ўсё. Няхай гісторыкі літаратуры спрачаюцца наконт таго, кім быў М. Гарэцкі, да якога жанру, якой літаратурнай школы аднесці яго творчасць. Няхай ён будзе, як лічаць многія, роданачальнікам сучаснага экзістэнцыялізму ў нашай літаратуры, які магутна ўзвышаецца паміж славутнымі фігурамі Альберта Камю і Акутагавы, уступіўшых у творчае жыццё значна пазней за яго. Для мяне галоўнае ў яго творчасці і светапоглядзе — беларускасць, нацыянальны дух і нацыянальная свядомасць. Веліч Максіма Беларуса, на мой погляд, у тым, што, дзякуючы яго выдатным творам, яго выдатным літаратурным і мовазнаўчым здольнасцям, паступова выспявала наша нацыянальная літаратурная мова і завяршыўся працэс яе канчатковага афармлення. Гэта працэс, які пачаўся ў другой палове XIX стагоддзя і быў паспяхова завершаны дзякуючы нашым духоўным настаўнікам і павадырам у 20–30-я гады. У той жа час М. Гарэцкі захаваўся ў сэрцах многіх як адзін з лепшых, горача любімых настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі. Я ўспамінаю, як некалькі гадоў назад у гасцінных Бартулёў з вялікім захапленнем расказвала пра яго наша выдатная паэтка Наталля Арсеннева, якая па-дзявочаму шчыра была закахана ў свайго настаўніка беларускай мовы. І хто яго ведае, каб не было Максіма Беларуса, магчыма не было б і нашай нацыянальнай паэткі, 90-годдзе якой мы адзначалі зусім нядаўна.

І як не прыгадаць тут Вільню, што стала калыскай беларускай культуры, выгадавала не аднаго волата слова і дзе 1 верасня я меў гонар прымаць удзел у аднаўленні дзейнасці беларускай гімназіі.

Веліч Максіма Гарэцкага ў тым, што ён адным з першых закладваў цагліны ў падмурак беларускай прозы. Ужо першы зборнік апавяданняў "Рунь", які быў выдадзены ў 1914 годзе, характарызаваў яго як самабытнага і глыбокага мастака.

Аднак мала, вельмі мала часу падараваў Максіму Гарэцкаму лёс. У дваццаць адзін год ён выдае зборнік "Рунь", і тут жа выбухае першая сусветная вайна. Кровапралітныя баі ва Усходняй Прусіі, цяжкае раненне, бясконцыя шпіталі. Яго запіскі таго часу "На імперыялістычнай вайне" (1926 год) можна паставіць на адну паліцу з сусветна вядомымі раманамі Рэмарка, Барбюса, Хемінгуэя, прысвечанымі той жа вайне.

Прыходзіцца нават здзіўляцца феномену Максіма Гарэцкага, які быў, бадай што, самым адукаваным чалавекам сярод нашых старэйшых пісьменнікаў.

Ён выкарыстоўвае ўсе мастацкія жанры, займаецца крытыкай, тэорыяй і гісторыяй літаратуры, састаўляе хрэстаматыі, першыя беларуска-рускія слоўнікі, выдае газеты і фальклорныя зборнікі, піша крытычныя артыкулы, літаратуразнаўчыя працы, чытае лекцыі, збірае народныя песні.

Убачыць Беларусь незалежнай дзяржавай было запаветнай марай Максіма Гарэцкага. Як і мы сёння, ён хацеў, каб яго старонка была "нараўні" з іншымі "крэпчайшымі" народамі, сапраўды верыў, што ў хуткім часе "ачунае" яго родны край і "закрасуецца прад відамі другіх народаў сваімі арыгінальнымі, самабытнымі, выразнымі прыгажосцямі". Ён не губляў надзеі на дасягненне Беларуссю паўнацэннай дзяржаўнай суверэннасці. Сродкамі літаратуры здзяйсняў сапраўды грамадзянскі подзвіг, імкнуўся паказаць іншым народам, "што за народ такі беларускі ёсць", жадаў, каб беларуская літаратура несла свой дар усяму чалавецтву.

Кароткае жыццё гэтага шматбаковага, надзеленага талентамі чалавека, якога знішчыла жорсткая таталітарная сістэма сталінізму, — суцэльны подзвіг, высокі подзвіг служэння радзіме, народу, сваёй "Матцызямлі Беларусь". І таму сёння ён сярод тых, хто складае наш залаты нацыянальны іканастас, сярод сваіх вялікіх сяброў-паплечнікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна. Ён вялікі сын нашага народа, вялікі беларускі пісьменнік, які паказвае нам сваёй самаахвярнасцю, як трэба ісці па шляху незалежнасці. Па таму шляху, пра які цудоўна сказаў Рамэн Ралан: "Круты гэты шлях, камяністы, але насупраць усяму цудоўны. Было б з чаго крывяніць ногі". І мы будзем гэта рабіць, колькі ў кожнага будзе сіл, дзеля нашай святой Беларусі.

Жыве і векі вечныя будзе жыць Беларусь!

Паўліна МЯДЗЁЛКА

# КУПАЛАЎСКАЯ "ПАЎЛІНКА" Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

Рэпертуар наш складаўся з тых самых п'ес, якія ставіліся ў Мінску ў Першым Таварыстве, апрача, хіба, "Раскіданага гнязда" Я. Купалы, непасільнага для нашага калектыву.

Аднак польска-панскія акупанты паспрабавалі іншым спосабам разладзіць нашу працу. Па справе канфіскавання газеты "Родны край" 20 ліпеня 1919 года былі арыштаваны я, кіраўнік хору Шах і член БГМ Салошык. Праўда, нешта месяцы праз два нас да суда выпусцілі з вастрогу. І зноў актывізаваўся наш драматычны гурток, зноў кожны тыдзень ставіліся спектаклі. Але перашкоды былі яшчэ большыя. Цяпер пачала цкаваць нас і польская клерыкальная газета. Вось прыблізны змест яе артыкулу (цытую па памяці):

"Панаехалі сюды нейкія беларусы з доўгімі і кароткімі валасамі і разгарнулі тут шкодную працу. Прыбыла сюды спосабам пілігрыма якаясь Мядзёлка. Яе тут празвалі Мяцёлкай хіба дзеля таго, што служыць да вымятання польскага духу з нашага краю. За сваю шкодную дзейнасць села ў турму, аднак зноў немаведама чаму апынулася на волі і зноў пачала працаваць, як кажуць, з усіх чатырох..."

У газеце "Беларускае жыццё" (N 17 за 17/X-1919 г.) паявіўся допіс, што ў Вільні адбылося пасяджэнне ініцыятыўнай групы Грамады беларускай моладзі. Старшынёй быў выбраны мой брат Казюк Мядзёлка, намеснікамі І. Бялькевіч і М. Тулоўскі, сакратаром Л. Катавічанка і скарбнікам М. Катовіч.

"ГБМ мае на мэце духоўнае і фізічнае развіццё сваіх сяброў, шырэнне беларускай свядомасці і культуры паміж беларускай моладдзю і стварэнне з яе стойкіх кіраўнікоў за адраджэнне беларускага народа і дзяржавы".

14 кастрычніка 1919 года адбыўся 2-гі агульны сход ГБМ у Гродне. Перавыбралі новае кіраўніцтва ў такім складзе: П. Мядзёлка — старшыня, Курбскі і Амяльянчык — намеснікі старшыні, Салошык — сакратар і Малей — скарбнік. Пастанавілі наладжваць суботнікі, на праграму якіх кожная сэкцыя Грамады павінна была падрыхтаваць даклад, дэкламацыю вершаў ці прачытаць урывак з мастацкай прозы, даць музыкальны нумар — спеў хорам ці сола, наладзіць нацыянальныя гульні і інш.

У N 19 газеты "Беларускае жыццё" за 1 лістапада 1919 года паявіўся новы допіс, у якім, між іншым, было сказана:

"Грамада моладзі шчыра працуе на славу роднага тэатральнага мастацтва, ладзячы час ад часу беларускія спектаклі, якія маюць вялікі ўспех. Паміж публікі чуваць нават і польскую гутарку. Тым болей трэба падчыркнуць культурную работу нашай моладзі, што яна дае грашовую дапамогу розным грамадзянскім і дабрадзейным установам... Рэжысерыя спачывае ў руках Паўліны Мядзёлка".

Яшчэ ў жніўні даходзілі да нас весткі аб тым, як гаспадараць польскія паны ў нашым краі. У Беластоцкім і Бельскім паветах польскія інспектары заявілі беларускім настаўнікам, што ў школы могуць быць назначаны толькі тыя настаўнікі, якія скончылі польскія настаўніцкія курсы. У Сакольскім павеце пазакрывалі ўсе беларускія школы. У маім родным Будславе закрылі беларускую гімназію. Дайшла чарга і да беларускай школы ў Гродне. Мне, як інспектару беларускіх школ, не было ўжо чаго рабіць. І ў снежні я выехала ў Мінск, які таксама быў пад польска-панскай акупацыяй.

У Мінску мяне назначылі загадчыцай 4-х краснай вышэйшапачатковай жаночай школы. Разы два давялося выступіць у ролі Зоські і Пронькі ў гарадскім тэатры, пакуль палякі не прыбралі ў свае рукі тэатр, прызначыўшы дырэктарам чарнасоценца, былога члена Саюза Міхаіла Архангела, мінскага домаўласніка і старога распусніка Тодара Вернікоўскага. Не ведаю, ці ўдалося яму набраць актораў з першага Таварыства і ці зрабілі хоць адну пастаноўку, бо 20 мая 1920 года я была зноў арыштавана польскай дэфензівай па справе тайнага паўстання камітэта, штаб якога знаходзіўся ў маёй кватэры пры школе на Александраўскай вуліцы (цяпер вул. імя Горкага) бліз Траецкай гары. 10 ліпеня апошнім эшалонам, у якім уцякалі з Мінска штаб галоўнакамандуючага генерала Шыптыцкага і ўся дэфензіва, нас, 60 чалавек зняволеных, вывезлі перш у варшаўскую турму "Павіяк", а пасля ў Вронкаўскую турму.

Вясной 1921 года я апынулася ў Берліне, дзе разам з Зм. Жылуновічам працавала ў Внешторгу СССР па выдавецтву беларускіх падручнікаў і іншай беларускай літаратуры.

Пад канец лета 1922 года я атрымала з Латвіі ліст з прапановай заняць пасаду выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай дзяржаўнай гімназіі і на аднагадовых настаўніцкіх курсах у Дзвінску. Я прыняла гэту прапанову і хутка выехала ў Дзвінск (Даўгаўпілс). З першых дзён заняткаў у гімназіі я пачала рыхтаваць пастаноўку "Паўлінкі", адначасова пазбірала паміж настаўнікаў і старшакласнікаў галасы для a капэльнага хору. На ўрачыстым адкрыцці гімназіі далі пастаноўку "Паўлінкі" і канцэрт. З таго дня, як і ў Гродне, закіпела праца. Кожны дзень пасля заняткаў у гімназіі адбываліся рэпетыцыі драматычнага гуртка і хору. Выявіліся вельмі здольныя да сцэны дзяўчаткі і салісткі хору, як Надзея Мікалаева, першая ў Латвіі Паўлінка, і Аня Бедарава. (Як праз некалькі год я даведалася, Надзя скончыла кансерваторыю ў Рызе і стала прафесіянальнай спявачкай, а Аня Бедарава — драматычнай акторкай). Праз кожны тыдзень-два на сцэне гімназіі ставіліся спектаклі і канцэрты. Зборы ішлі на інтэрнат для бяднейшых вучняў. Дэкарацыі рабілі самі вучні, галоўным чынам Міранові, які пазней скончыў Акадэмію мастацтва. Рэпертуар драмгуртка складаўся з тых п'ес, якія меліся ў нас у запісе, а часам даставалі з Вільні. Хор выконваў беларускія народныя песні ў апрацоўцы Рагоўскага і Тэраўскага, латышскія народныя песні, а з класікаў — Чайкоўскі і Ст. Манюшка. Нават адважыліся паставіць трохактовую музыкальную камедыю чэшскага кампазітара Старога (?) "У чырвоным млыне". Клавір з чэшскім тэкстам прыслалі нам з Прагі. Пры дапамозе слоўніка пераклалі тэкст на беларускую мову. Пры дапамозе піяністкі Ольгі Бароўскай пачаліся рэпетыцыі. Вельмі маляўнічыя, прыгожыя дэкарацыі для ўсіх 3-х актаў зрабіў вучань Міранові.

Працяг.
Пачатак у №№ 39, 40.

## НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ

# ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ ЧАСЦЕЙ

*Анатоль ХРЭНОЎСКІ — старшыня Згуртавання беларусаў Квебека (Канада) летам гасціў у Мінску. З ім сустрэўся і гутарыў журналіст Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.*

**— Анатоль, ведаю, што пасля доўгай разлукі вы ўпершыню сёлета трапілі на Беларусь...**

— Так, сапраўды, 51 год я не быў дома. Васьмігадовым хлапчуком разам з бацькамі фашысты вывезлі мяне на рамонт чыгункі ў Нямеччыну. Надрываўся там, цягаючы каменне, амаль нараўне з дарослымі... А пасля ўжо пачуццё страху выштурхнула бацькоў як мага далей ад Бацькаўшчыны. І вось зараз я проста шчаслівы, што магу свабодна, без усялякіх праблем прыехаць на Беларусь. Незалежнасць для мяне праяўляецца ў гэтым. Менавіта ў тым, што прыехаў, паглядзеў на родную вёску Талькаўшчына ў Слонімскім раёне. Пабываў у Слоніме, дзе таксама жыў з бацькамі. Вочы адразу пацяплелі, як на падворку ў Слоніме ўгледзеў "жывую" дубовую лаўку, на якой маці мыла бялізну.

Незалежнасць, суверэнітэт — гэта якраз і ёсць адкрытасць, а таксама паразуменне.

**— А ці ж захоўваеце вы асабіста, нашы землякі ў Канадзе беларускасць там, далёка ад Бацькаўшчыны!**

— Канешне ж, беларускасць — штодзённы атрыбут нашага жыцця. Нават у тых сем'ях, што з'яўляюцца змешанымі. У мяне жонка — француженка. Але за якісьці год вывучыла беларускую мову. У хаце гаворым па-беларуску... Вось і дачка ў мяне — актыўная ўдзельніца беларускага руху. Ларыса з'яўляецца сябрам нашага згуртавання ў Квебеку.

Мы ніколі не забываемся, адкуль мы родам, помнім, што наша калыска — Беларусь. Цікавімся пастаянна тым, што дзеецца-адбываецца на Бацькаўшчыне. Чытаем беларускую перыёдыку. Нам хочацца быць неразрыўна паяднанымі з Беларуссю. А значыць — і мець магчымасць нейкім чынам уплываць на лёс Бацькаўшчыны.

**— Якія ж, на ваш погляд, формы сувязі, паяднання з роднай старонкай павінны вызначыць характар стасункаў далёкіх суродзічаў з Беларуссю!**

— Пакуль што, прызнацца, мне цяжка гаварыць аб нечым канкрэтным. Усё ж такі яшчэ толькі-толькі пачынаюцца выразныя кантакты замежных суайчыннікаў з беларускай дзяржавай. Вось і Першы з'езд беларусаў свету паказаў, што нам ёсць чым апекавацца, ёсць аб чым клапаціцца. Замежныя беларусы ў аднолькавай ступені абавязаны Беларусі, як і Беларусь абавязана шмат чым далёкай і блізкай эміграцыі. Але тут, відаць, не трэба так выразна займацца дзяльбой. Вось і ў сваім квебецкім асяродку я пастаянна выводжу для землякоў такую думку: цяжка зараз на Беларусі. Цяжка не толькі з моўнымі пытаннямі, не толькі з духоўнымі клопатамі, але надзвычай цяжка з нагоды наступстваў чарнобыльскай аварыі. Страшэннымі для нацыі з'яўляюцца і праблемы эканамічнага характару. Дык давайце дапаможам, заўжды заклікаю я эміграцыю. Хто як і хто чым можа... Мы ўсё ж такі жывём багацей...

**— Але ж, відаць, у гэтым высакародным клопаце не пакінуць у бядзе Бацькаўшчыну вы дбаеце, спадзеяцеся і на пэўныя гарантыі ў далейшым фармаванні беларускай дзяржавы!..**

— Так, мы спадзяёмся, што Беларусь не зменіць ужо вызначаным абвешчаным ідэям суверэнітэту, незалежнасці. Толькі той народ нечага варты, каторы адчувае сябе свабодным, вольным. Калі ізноў да ўлады на Беларусі прыйдзе камуністычны дыктат, то, пэўна, ізноў парушацца ўсе нашы сувязі. Ды і ці будзе гэткі ўрад бараніць суверэнітэт Беларусі? Пагадзіцеся, пытанне гэтае хутчэй рытарычнае. Адказ на яго вядомы ўжо зараз.

**— Анатоль, ведаю, што вы з'яўляецеся рэдактарам часопіса "Прамень". Раскажыце, калі ласка, пра ваша выданне.**

— "Прамень" — гэта перыядычнае выданне Згуртавання беларусаў Квебека. На вялікі жаль, часопіс наш не надта часта прыходзіць да чытача. Прычын на тое шмат. І тым не менш "Прамень" выконвае пэўную ролю ў прапагандзе беларускага слова, у мацаванні яго на канадскай зямлі. У часопісе таксама змяшчаем найбольш цікавыя перадрукі з беларускай перыёдыкі, дапамагаем чытачу ў прачытанні сапраўднай беларускай гісторыі. Робім гэта яшчэ і з-за таго, што ў нас, далёка ад Беларусі, усё большай праблемай становіцца знаёмства з перыядычнымі выданнямі Рэспублікі Беларусь. Вось тут і хацелася б адчуць увагу з боку Бацькаўшчыны. Ды, на жаль, па ўсім відаць, гэта мала каго турбуе.

**— Анатоль, дзякуй вам за гутарку. Прыемна было пачуць ад далёкага земляка жывую беларускую мову, адчуць заклапочанасць лёсам Бацькаўшчыны. Прыязджайце дадому часцей.**

## АДКУЛЬ ШТО ПАЙШЛО?

# САДЫ І ПАРКІ МАГІЛЁВА

НА БЕЛАРУСІ паркі з"явіліся прыблізна ў XYI стагоддзі. Прыгадаем, напрыклад, радзівілаўскі парк Альба пад Нясвіжам. Адначасова з паркамі, а магчыма, і раней за іх распаўсюджваюцца ў нас сады. Так, крыніцы адзначаюць, што пры Бяльніцкім манастыры, пабудаваным у канцы XYI стагоддзя, меўся вялікі пладовы сад.

Першы ўспамін пра магілёўскія сады адносіцца да канца XYII стагоддзя. Пятроўскі стольнік Пётр Андрэевіч Талстой, які праязджаў праз Магілёў у 1697 годзе, засведчыў у сваіх нататках, што на магілёўскіх пасадах шмат садоў. Ёсць звесткі, што ў XYII—XYIII стагоддзях усю сваю маёмасць (землі разам з садамі) Максім Папцэвіч і Іван Казакевіч ахвяравалі магілёўскаму брацкаму Богаяўленскаму манастыру. Васіль Крэйдзін, напрыклад, падарыў гэтаму ж манастыру Бізігаўскі сад у Нагорскай сотні. Вялікія сады былі пры кармяліцкім кляштары, каля палаца каталіцкага біскупа С.Богуш-Сестранцэвіча (Ленінская, 25), а таксама ў Спаскім манастыры, побач з палацам праваслаўнага арцыбіскупа (Ленінская, 11-а). Апошні быў пасаджаны дзякуючы намаганням пераемніка Г.Каніскага арцыбіскупа Афанасія.

Яшчэ адзін сад быў разбіты ў курданёры (замкнутым двары) езуіцкага кляштара. Ён праіснаваў да 1820-х гадоў — пакуль езуітаў не выгналі з Расіі і магілёўскі кляштар перайшоў да першай расійскай арміі. Дрэвы высеклі, каб яны не перашкаджалі муштраваць салдатаў.

У XIX стагоддзі (у 1820—1821 гадах) паміж галоўным корпусам Старога Беларуска-Магілёўскага шпіталя і ракой Дубравенкай разбіта вялікая садова-паркавая кампазіцыя. Сёння яшчэ можна пабачыць рэшткі гэтага комплексу ў выглядзе алеяў з векавымі дрэвамі і некаторымі іншымі элементамі паркавай архітэктуры. Гэты парк разам са шпітальнымі пабудовамі можа цудоўна ўпісацца ў гарадскую зону адпачынку Пячорскага лесапарку.

Па праектах архітэктараў сярэдзіны XIX стагоддзя невялікі паркавы ансамбль ствараўся яшчэ пры адной медыцынскай установе — гарадской бальніцы (вуліца Боткіна). Ён складаўся ў асноўным з газонаў і клумбаў. Невялікая садова-паркавая кампазіцыя існавала і пры новым вайсковым шпіталі, што знаходзіўся за Быхаўскай заставай (вуліца Чэлюскінцаў). За гэтым шпіталем месцілася аранжарэя і парнікі Бланка.

З магілёўскіх дакументаў вынікае, што ў другой палове XIX стагоддзя ў горадзе каля 100 дзесяцін зямлі былі засаджаны садовымі дрэвамі (грушы, яблыні), плады якіх вывозіліся на продаж у Маскву, Смаленск, Віцебск, Пскоў і іншыя гарады Расейскай імперыі. На пачатку XX стагоддзя ў Магілёве дзейнічалі некалькі садаводстваў: Бабкова, Біндзера і Аконскага, а таксама Сад-Трэк, Дзіцячы сад (абодва ў раёне аўтавакзала), Мікалаеўскі, гарадскі (на валу), Мураўёўскі (за тэатрам) і Бяклемішаўскі (былая Губернатарская, зараз Савецкая плошча). Таму не выпадкова, што менавіта ў Магілёве праводзілася першая выстава садаводства ўвосень 1903 года. Перапіска аб яе арганізацыі паміж дырэктарам дэпартамента земляробства і магілёўскім губернатарам захавалася ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

Як бачым, амаль усё гістарычнае ядро горада было ўпрыгожана зялёнымі своеасаблівымі аазісамі. Дарожка, што спускалася ад дома губернатара па тэрасах да Дняпра, была абсаджана акацыямі, як і сам бераг ракі. У садзе (высаджаны ў 1872 годзе) магілёўскага генерал-губернатара Дэмбавецкага летам 1884 года быў зроблены фантан, які з"яўляўся састаўной часткай Дняпроўскага водаправода. У цэнтры Бяклемішаўскага саду знаходзіўся сонечны гадзіннік.

Вуліцы горада былі абсаджаны дрэвамі, якія добра дагледаліся. Шэраг найменняў асноўных вуліц таго часу сведчаць пра гэта: Вялікая Садовая (Ленінская), Малая Садовая (Піянерская) і Зялёная (К.Маркса).

Адразу за горадам таксама было шмат сядзібна-паркавых комплексаў. Адзін з такіх, відаць, тэрасных паркаў, што спускаўся да правага берага ракі Дубравенкі, быў выяўлены аўтарам у раёне сучаснай вёскі Сарканайск, якая ў бліжэйшы час знікне паміж сучаснай гарадской катэджнай забудовай.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

